


## ЯК МЯРЦВЯК...

У студзені 1977 года ў Італіі сіцылійскай мафіяй быў украдзены кінапрадзюсер Нікола дэ Нора. Везлі яго з Медыялана ў Сіцылію ў труме карабля пад скрынкамі для садавіны і гароднін. У гэты час, атрымліваючы толькі ваду, Нікола ледзь не памёр ад голаду. А далей яго чакаў непараўнальна горшы лёс. Жыць яму давялося ў падвале дома на глыбіні чатырох метраў, у зусім цёмным памяшканні. Прыкаваны стальным ланцугом, які дазваляў рухацца толькі ў радыусе паўтара метра, гэты бездапаможны вязень на працягу многіх месяцаў не сустракаўся з людзьмі, толькі зрэдку бачыў аднаго з бандытаў, якімі быў схоплены, яму было забаронена гаварыць нават з гэтым чалавекам. Не дзіўна, што ў такіх абставінах чалавек страціў усялякае ўяўленне аб цячэнні часу, калі дзень змяняўся ноччу і наадварот. Не часцей чым два разы ў тыдзень яму дастаўлялі посуд з нейкай халоднай бурдой, якую не ўсякі сабака стаў бы есці. Па некалькі сутак яму не прыносілі жароўню для абагрэву, не запальвалі нават святло. І гэтак ён пражыў аж 524 дні.

У чым вінаваты гэты чалавек, якім чынам ён выклікаў да сябе такую няміласць бандытаў, за што гэтак жорстка з ім абышліся? Каб атрымаць выкуп за яго і зарабіць, толькі і ўсяго. Яны запрасілі з бацькі Нікола ні мала ні многа, аж 12 мільёнаў долараў. А паколькі нават гэты багаты фабрыкант не мог сабраць такой вялізнай сумы, то з сынам сталі абыходзіцца яшчэ больш сурова, не перастаючы напамінаць бацьку аб выкупе сына. Спрэчкі наконт памеру выкупу працягваліся многа тыдняў. Нарэшце бандыты пагадзіліся на суму ў два з паловай мільёна, але, атрымаўшы грошы, не выпусцілі Нікола, а патрабавалі яшчэ дадаткова тры з паловай мільёна долараў. І толькі праз некалькі месяцаў, калі жыццё вязня было на валаску і задума бандытаў магла наогул праваліцца, а блізкія і далёкія родзічы Нікола сабралі-такі грошы, вязень быў адпушчаны. Усіх, хто яго ўбачыў, ахапіў жах: Нікола ўжо не быў падобны на чалавека. Ён быў неймаверна схуднелы — скура ды косці, брудны, зарослы, да таго ж выглядаў вар'ятам, ні на каго не звяртаў увагі і толькі разглядаў сябе і ціха шаптаў: „Здаецца, я мярцвяк..."

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**120 гадоў назад**
22 XII 1858 нар. Джакама Пучыні, італьянскі кампазітар. Найбольш значны прадстаўнік верызма. Оперы „Тоска", „Чыо-Чыо-сан", „Турандот" увайшлі ў сусв. оперны рэпертуар.

**75 гадоў назад**
17 XII 1903 браты Райт ажыццявілі першы паспяховы палёт на аэраплане.
17 XII 1903 нар. Эрскін Колдуэл, амерыканскі пісьменнік.

**15 гадоў назад**
20 XII 1963 пам. Густаў Марцінак, польскі пісьменнік.

**Niwa**
BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY
ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"
Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego
* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *
ADRES REDAKCJI
Niwa
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 2-32-41
* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *
Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 2512 Nakład 7.800 egz. N-4



*Запоўнены дзіцячы сад.*

ДОБРЫ ДЗЕНЬ, БЕЛАРУСЬ

## ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ

Вуліцай ад школы ідуць піянеры. У чырвоных гальштуках, бадзёрыя, гаманлівыя. Ідуць са спевам. Побач, насупраць школы — невялічкі, двухпавярховы катэдж, у якім памяшчаюцца яслі і дзіцячы садзік.

— У школе у нас прасторна, — заяўляе дырэктар саўгаса „Савецкі", доктар сельскагаспадарчых навук Віктар Рошчанка. — Затое ў яслях і ў дзіцячым садзіку, на жаль, не ўсім хапае месца. Мы запланавалі яго для 90 малышоў і аказваецца, што гэтага мала. Бо людзі ў нас маладыя. Сярэдні статыстычны ўзрост нашага рабочага калектыву не перавышае 34 гады. Няма такога тыдня, каб адзін ці двое ашчаслівленых бацькоў не звярталіся да мяне з просьбамі, што неадкладна патрэбна ім машына, каб адвезці жонку ў радзільны дом. Таму і даводзіцца нам пашыраць нашы яслі і дзіцячы садзік.

— Значыць, дадатковы клопат, — заўважаю я.

— А чаму ж вы так мяркуеце? — пярэчыць дырэктар. — Гэта ж сапраўдная радасць, калі можна дапамагчы чалавеку, які гэтага патрабуе. Такім чынам мы ўстойліва цэментуем нашы сяброўскія, сямейныя адносіны.

У абедні перапынак сабралося ля сталовай і гандлёвага цэнтра крыху людзей. Знаёмлюся з імі. Адзін называе вёску Тухановічы, два наступныя знаёмыя з Клепачоў, а іншыя — з вёсак Котра і Пяскі. Прытуліліся гэтыя вёскі да „Нікаравага" балота і ад вякоў жылі там, ды гаравалі. Пасля апошняй вайны ў гэтым раёне абсталяваліся калгасы „Чырвоная вежа", „Чырвоны партызан" і „Савецкая Беларусь". Яны толькі дакраналіся да „Дзікага Нікара", але ў яго не ўглыбляліся.

— Як вам жылося даўней, як жывецца цяпер? — кідаю ў натоўп пытанне.

— Што грэх таіць, — гаворыць чалавек з вёскі Клепачы. — Зараз жа пасля вайны вельмі худа нам даводзілася. Моладзь, як толькі магла, дык уцякала ў горад. Найперш у армію, а затым — хто куды, каб толькі не ў Клепачы.

— А да чаго было тут вяртацца? — заяўляе малодшы. — Да гэтай цемры?

Імчымся на жывёлагадоўчую ферму. Пара даення. Паўаўтаматычныя абсталяванні для даення кароў, якія тут беражліва называюць „ёлачкамі", абслугоўваюць маладыя жанчыны.

— Вось нашы даяркі, — гаворыць дырэктар. — Адна з іх раней працавала ў бары, а другая была парыкмахершай. Прыехалі да нас і прывучыліся да новай прафесіі. Цяпер яны апературы механічнага даення. Зарабляюць па 150-170 рублёў у месяц. Атрымалі выгодныя кватэры.

За тым, каб гэтыя „ёлачкі", ды ўсе іншыя механічныя абсталяванні на ферме працавалі без перапынку, наглядае Анатоль Баран. Яго жонка працуе ў дзіцячым садзіку. На пляцоўцы, дзе праводзяць сарціроўку бульбы, знаёмлюся з Віктарам Грыцюком. Ён таксама механізатар. Мясцовы, з вёскі Клепачы. Жыве яшчэ ў бацькоўскай хаце.

— Як нам жывецца? — паўтарае маё пытанне. — Мяркуйце самі. Месячная зарплата ў мяне — 180-200 рублёў. Да гэтага варта было б далічыць даход з прыхатняй дзялянкі. Кожнаму працаўніку, калі ён хоча, саўгас адводзіць 30 сотак зямлі, на якой мы вырошчваем бульбу і агародніну, трымаем хатнюю жывёлу.

Заходзім у дзіцячы сад, дзе загадчыцай працуе Таццяна Нікалаеўна. Закончыла яна Брэсцкі педінстытут. А тут з захапленнем гаворыць аб давераных яе апецы маленькіх жыхарах саўгаса „Савецкі". У прасторных светлых залах у той час яны якраз адпачывалі. За іх спакоем пастаянны нагляд вядзе 25 выхавацельніц і іншых працаўнікоў гэтага вясковага дзіцячага сада. Адной з іх з'яўляецца фельчар Наталля Сяргееўна. Яна запрасіла нас да сябе на кватэру.

— Мой муж, — расказвае яна, — працуе механізатарам. А як мы жывем, глядзіце самі.

Гляджу. Кватэра прасторная, з трох пакояў, выдатна абсталявана, новая мэбля з камплектам сучаснай электроннай тэхнікі...

— Тут, у саўгасе „Савецкі", — заяўляе фельчар Наталля Сяргееўна, — знайшлі мы сваё месца. Нічога лепшага шукаць нам няма патрэбы. Я і муж маем працу, якую мы любім, маем дзе жыць, маем за што жыць, маем сям'ю...

А дырэктар Віктар Рошчанка яшчэ папаўняе:

— Нястачы ў рабочай сіле мы пакуль што не адчуваем. Людзі да нас горнуцца, каб толькі маглі мы іх прымаць. Прывяду вам вось такі прыклад: ёсць у нас пастух. Чалавек яшчэ зусім малады. Па прафесіі фрэзіроўшчык. Працаваў у Мінску на трактарным заводзе. Выпадкова пабываў у нас у Клепачах, пагутарыў з нашымі людзьмі і папрасіўся на працу. Фрэзіроўшчыка, на жаль, мы не патрабавалі, дык стаў ён пастухом. Затое атрымаў кватэру і зарплата ў яго не меншая, як у Мінску.

Дырэктар спыніў свой расказ, крыху падумаў і дадаў:

— Ды не справа ў зарплаце і ў жыллі... Так я мяркую. Здаецца мне, што людзі, якія нарадзіліся ў вёсцы, калі стварыць ім добрыя ўмовы для працы і жыцця, ахвотна астануцца на зямлі. Толькі гэта справа пачуццяў, якія цяжка вымераць і выказаць...

...Такіх вось людзей сустрэў я там, дзе было калісьці балота „Дзікі Нікар".

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара




**З гушчы народнага ● Бацікі Сярэднія ● Пні з чортавага саду ● Якія павінны быць беларускія радыёперадачы? ● Напрыклад, у Саколі ● Роз-гляды і запоіны ● Вырай пачуццяў Міцкевіча ● Весткі з Белавежы, Гарадка, Сакоў, Гайнаўкі, Кляшчэляў, Ляшукоў, Дубяжына, Чаромхі, Бельска, Нараўкі ● Як я аднойчы быў жанатым — адкрывае сакрэт Мікола Вяршынін ● Песня „Żołnierskie dziewczyny".**




**Sobota 16 XII** — 6.00 TTR. Mat. 6.30 Biol. 12.45 Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 14.30 Skakanka. 15.00 Dziennik. 15.10 Dzień dobry, tu telewizja. 15.30 Polsce i Partii. 16.00 Studio 8. — 19.00 Bajki Bolka i Lolka. 19.30 Dziennik.

**Niedziela 17 XII** — 6.15 TTR. Upr. rośl. 6.45 Hod. zwierz. 7.15 Nasze spotkania. 7.35 Alarm przeciwpoż. 7.45 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Drogi i rozdroża drugiej Rzeczypospolitej. 11.25 Wielkie rzeki świata: Wołga — fr. film dok. 12.20 Dziennik. 12.35 Rolnicze rozmowy. 13.05 Piękne głosy: Urszula Trawińska-Moroz. 13.50 Kartki z 35-lecia. 14.15 Z kamerą wśród zwierząt. 14.45 Komedia omyłek — teletur. 15.30 Los. Dużego Lot. 15.45 Klub wszystko za wszystko. 16.25 Gram dla... — teletur. 17.10 Sport. 18.00 Curro Jimenez — odc. ser. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Układ krążenia — odc. ser. 22.05 Przeboje mistrz. 22.45 Stadiony kraju i świata.

**Poniedziałek 18 XII** — 12.45 TTR. Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 15.30 NURT — mat. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Zwierzyniec. 17.30 Białe słońce pustyni — radz. film sens.-przyg. 19.00 Uszatek i Zębatek. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. C. Zuckmayer „Kapitan Koepenick". 22.20 Kto jest kto? — teleturniej. 22.50 Dziennik.

**Wtorek 19 XII** — 6.00 TTR. Upr. rośl. 6.30 Hod. zwierz. 8.10 Dla kl. VIII Hist. 9.00 Dla kl. VI J. pol. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 11.05 Dla kl. I Mat. 13.25 TTR. J. pol. 14.00 Fiz. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Studio Mł. 17.25 Interstudio. 17.55 Sonda. 18.25 Raj zwierząt — przyr. film dok. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Miś Uszatek. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Nowele G. Greena „Ostatnia szansa Levera" — ang. dramat obycz. 21.35 Świadkowie. 21.55 Camerata. 22.25 Dziennik. 22.40 Sport.

**Środa 20 XII** — 6.00 TTR. J. pol. 6.30 Fiz. 12.45 Mat. 13.25 Chem. 15.30 NURT — naucz. pocz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Entliczek-słowniczek. 17.15 Los. Małego Lot. 17.25 Uparci — pr. publ. 18.05 Skarbiec. 18.35 Między nami jaskiniowcami — ser. USA. 19.00 Przygody Rozbójnika Rumcajsa. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Stracone złudzenia — dramat obycz. RFN. 22.05 Feliks Parnell. 22.30 Dziennik. 22.45 Rozmowy o sztuce.

**Czwartek 21 XII** — 6.00 TTR. Mat. 6.30 Chem. 13.25 Hist. 14.00 Mat. 15.30 Co dalej maturzysto? 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Czwartek TDC. 18.10 Dom i my. 18.25 Poligon. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Wiewiórka Flic. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Śmiertelny pocałunek — ameryk. dramat krym. 22.10 Pegaz. 22.55 Dziennik. 23.10 W minutę po premierze.

**Piątek 22 XII** — 6.00 TTR. Hist. 6.30 Mat. 9.00 Dwanaście miesięcy — widowisko dla dzieci. 12.45 TTR. Mat. 13.25 Wskaz. met. 15.30 NURT — ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Piątek z Pankracym. 17.15 Klinika zdrowego człowieka. 17.50 Zawodowcy — pol. kom. obycz. 18.35 Stawka — teletur. 19.00 Lis i sroka. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Fortepian na powietrzu — kom. węg. 22.05 Świat, ludzie, idee. 22.35 Dziennik. 22.50 Rodzina Słońca.




**Piątek 15 XII** — 17.00 Puchar Interwizji w gimn. art. 17.30 Film fab.

**Sobota 16 XII** — 12.05 Film ser. 13.05 W świecie zwierząt. 14.00 Hokej. Kanada—Finlandia. 19.35 ZSRR—Szwecja.

**Niedziela 17 XII** — 9.00 Film anim. 13.00 Klub film. 14.00 Hokej. Czechosłowacja—Kanada. 16.15 Panorama międzynar. 17.00 Koncert estrad. 17.35 Film fab.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Dzień szakala — ang. 19—20. Pokój z widokiem na morze — pol. 21—22. Cezar i Rozalia — fr. 23—24.

**Bielsk Podl.** Trzy dni Kondora — wł.-USA 19—20. Nie ma sprawy — fr. 21—22. Oddział — USA 23—24.

**Czyże** Antyki — pol. Jutro policzymy się kochanie — czes. 20—24.

**Gródek** Czas życia, czas miłości — radz. 23—24.

**Hajnówka** Znaki Zodiaku — pol. 18—19. Rocki — USA 20—21. One dwie — węg. 22—23. Goń mnie, aż cię złapię — fr. 24.

**Michałowo** Superekspress w niebezpieczeństwie — jap. 19—20. Setka dla kurażu — radz. 21—22. Vincent Francois Paul i inni — fr. 23—24.

**Mielnik** Tabor wędruje do nieba — radz. 20. Światło — fr. 23—24.

**Milejczyce** Nie wychylać się — jug. Węgrzy — węg. 20—24.

**Narew** Szczególny dzień — wł. Milioner — pol. 20—24.

**Nurzec** Czarodziejskie dary — NRD 19—20. Bajka o Mrozie Czarodzieju — radz. 21—22. One dwie — węg. 23—24.

**Orla** Gang Olsena na szlaku — duń. Męskie sprawy — buł. 20—24.

**Rajsk** Noc nad Chile — radz. Szał — ang. 20—24.

 



**Гарадскія замалёўкі.** *Беласток, скрыжаванне вуліц Каліноўскага і Пруχняка. Будынак ваяводскага камітэта партыі.*
*Фота Я. Целушэцкага.*




## І не ведалі нават, дзе знаходзімся

— Мусіць, тут за паваротам першая налева, — сказаў шафёр і павярнуў машыну.

— Спытаем каго, вунь там хаты відаць, — сказаў я. — А мо гэта ўжо вёска?

— А чаму дарогапаказальніка не было? Пэўна, абламалі.

Машыну падкідала на моцна выбаістай дарозе. То ўздымалася на ўзгорак, нібы жучок на нарытую паўхом купіну, то зноў ляцела носам проста ў лужыну, якая, прыціснутая коламі, злосна пырскала на шыбіны.

— О, урэшце нейкія хаты. Пэўна, Кругляны.

Сапраўды, паміж пачарнелымі ад асенняга суму дрэвамі паблісквала чарапіцамі некалькі хат.

— Тут ці не?

— А я ведаю? — паціснуў плячыма. — Нідзе няма ніякай дошчачкі, якая б паведамляла, што гэта за вёска.

Павярнулі ў балотністую вулачку і, праехаўшы некалькі метраў, замест вуліцы, убачылі нечый панадворак.

— Хутар, пэўна, нейкі. Нікога няма, каб і спытацца. Трэба, відаць, было ехаць проста.

Павярнулі на пачарнелую дарогу і паехалі далей. Наперадзе паказалася вёска. Можа і Кругляны, але нішто на гэта не паказвала, калі мы пад'ехалі. Нідзе табліцы з надпісам, як пры іншых вёсках. І як тут даведацца? Ці пытаць, як вёска называецца, ці як у Чупрынова праехаць, бо трэба ж нам у Чупрынова папасці. Выяснілася, што Кругляны і ехаць трэба аж у другі канец. Машына паўзе па балоце, якое называюць тут вуліцай. Вузка, цесна. Ледзь з фурай мінуліся. Каб тая на панадворак не ўехала, дык хоць ты машыну пераносъ. Да Чупрынова заставалася некалькі кіламетраў. Нідзе ніводнага дарогапаказальніка. Усё спыняліся і крычалі да людзей, якія былі на полі, куды павярнуць, каб у Чупрынова трапіць. А машына аж жыватом пора. Грузка. Калдобіны. Даехалі. І зноў тое, што ў Круглянах.

— Што за вёска? — пытаем, быццам бы пасля фронту.

— Ну, Чупрынова.

Назад вярталіся крыху інакш. Але каб нехта паказаў карту і спытаў, праз якія вёскі ехалі, ніхто б не змог адказаць. Адно толькі вядома, гміна Кузніца Беластоцкая, а там людзі пакажуць.

**Бізун**




### З ЖЫЦЦЯ БГКТ У ВАРШАВЕ

У клубе БГКТ у Варшаве адбылося ў апошні час многа цікавых мерапрыемстваў.

24 X наведвальнікі клуба сустрэліся з Яўгеніем Нячаевым, вядомым рускім празаікам, аўтарам многіх аповесцей (пераважна з ваеннай тэматыкай), які пастаянна пражывае ў Пскове. Пісьменнік падзяліўся сваімі ўспамінамі з франтавога жыцця і ўражаннямі аб пабыўцы ў Польшчы.

25 X адбылася сустрэча з Вандай Міхалеўскай, былым відным дзеячом КПЗБ. Тав. Міхалеўская расказала аб сваёй падпольнай партыйнай працы і аб супрацоўніцтве з кіраўнікамі „Змагання" — рэвалюцыйна-дэмакратычнай і нацыянальна-вызваленчай арганізацыяй працоўных Заходняй Беларусі, створанай па ініцыятыве ЦК КПЗБ у снежні 1927 года пасля разгрому Грамады.

29 X адбыўся агульны сход моладзі, на якім была створана новая сяміасабовая Рада клуба, якую ўзначаліў выпускнік Варшаўскай палітэхнікі мгр інж. Яўген Салагуба. Новавыбраная рада клуба вырашыла перад кожным нядзельным танцавальным вечарам праводзіць агульнае спяванне, а таксама развучванне новых беларускіх песень. Пастаноўлена таксама праводзіць вечары беларускай музыкі з магнітафоннай плёнкі і грамплацінак.

5 XI праведзена ўрачыстая акадэмія, прысвечаная 61 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. З дакладам на тэму кастрычніцкіх падзей выступіў В. Швед.

Пасля даклада выступілі са сваімі ўспамінамі ўдзельнікі рэвалюцыйных падзей у Маскве тав. тав. Уладзіслаў Маскалян і Северын Марыянскі, ім былі ўручаны кветкі.

8 XI др А. Баршчэўскі ахарактарызаваў сабраны студэнтамі кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта багаты матэрыял — запісы на магнітафоннай плёнцы беларускіх народных песень, прыказак, прымавак і казак у беларускім асяроддзі на Беласточчыне.

Кіраўнік кафедры беларускай філалогіі В. У. даў таксама высокую ацэнку сарака магістэрскім працам, у якіх сабраны багаты матэрыял і праведзены аналіз фальклорнай абраднасці ў нашых вёсках у мінулым.

15 XI праведзена сустрэча з праф. Львом Шакуном, загадчыкам кафедры беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску. Праф. Шакун расказаў аб педагагічнай і навукова-даследчай працы філалагічнага факультэта Мінскага універсітэта. Варта прыгадаць, што праф. Шакун з'яўляецца даследчыкам праблем развіцця беларускай літаратурнай мовы і аўтарам многіх навуковых прац у гэтай галіне. Значны таксама яго ўклад у апрацоўку пяцітомнага „Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы", першыя два тамы якога ўжо выйшлі з друку.

22 XI адбыўся аўтарскі вечар В. Шведа. Паэт выступіў з вершамі са свайго новага паэтычнага зборніка „Вяртанні", над якім у далейшым працуе. Прысутныя ў дыскусіі далі станоўчую ацэнку паэтычнай творчасці В. Шведа.

**В.Ш.**




**душка** — ручка ў вядры. Дотягнув і туолькі оно рукою хотіэв за душку взяті, як тая трах і обырвалася і відро бултых назад в колодэць. Дэсь тыя душкі до віэдёр як на сміэх прычэпляют. А я рано відро згубів, і то коб нормально стояло, а то дэсь пэрэвэрнулося душкою до дна.

**куньпа** — шынка. Поладуй вэндзярню, то завтра куньпы покоптімо. Внэсі куньпу, то опэку, бо піэч тэпла. Вліэзь на гору і куньпы одрыэж, а то закусіті нэма чым.

**посюк** — мачавы пузыр. А муой мэнчы посюка простудів і ліе, і ліе. Помалу розбірай, гледі коб нэ прорыэзав, а то розліецця по всюом мясі. А ну его з посюком, возьмі і выкінь.

**пэтрык** — божая кароўка. „Пэтрык, пэтрык, пэнь чы колода, што завтра будэ, дождж чы погода? Як погода, то леті, а як дождж, то сіді" — говорылі так у нас, злапавшы пэтрыка. Ну й ты чуділо, пэтрыка од стонкі нэ одлічыв.

**сінянка** — невялікі палатняны мяшок, напханы саломай. Клалі яго на ложак або проста на падлогу і на ім спалі. Намолотілі свіежойі соломы, то трэба сінянкі понапіхаті. А ты лягай посэрэдіні сінянкі, а то вдушыв з одного боку і спаті будэ кепсько. Вытрэсі сінянку.

**скокі** — боты з кароткімі халяўкамі. Шылі іх са старога валёнка, або фільцу. Накладалі на іх галошы і так хадзілі. Дай скокі просушу. Нэ іді в скоках, бо мнуого сніэгу.

*(Сакі, гміна Бельск)*

### *БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ*

*Кожная разумная жана, калі ёсць мех мукі і пшана.*

*Пячоныя галубы не ляцяць на дубы.*

*Каму вядзецца, у таго і певень нясецца.*

**ЯКІЯ ПАВІННЫ БЫЦЬ БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЁПЕРАДАЧЫ?**

## СУПРАЦЬ ГОРШАСЦІ

Перш за ўсё не спадабалася мне, што аўтар такога сэнсоўнага выказвання адносна беларускіх радыёперадач сароміцца падаць сваё прозвішча. Чалавек адважны не хаваецца за „параваны", тым больш, што нічога дрэннага не сказаў. Я асабіста падпісваюся пад думкаю „ананіма". Я не хачу сказаць, што ён выказаў думку ўсіх беларусаў у граніцах Польшчы, але напэўна вялікай колькасці. Ну, бо і праўда, джаз і іншыя угі-бугі рычаць на ўсіх частотах і ў кожную пару сутак, проста страх уключаць радыёпрыёмнік, то яшчэ і Рудчык, каб не адставаць ад так званае сучаснае культуры, трымаецца яе. Я думаю, што ніхто не супраць музыкі, але, калі без перапынку слухаць толькі уэ-уэ-уэ, то і гарбатага можа згневаць. Чакаеш суботы, мо дадуць нешта свойскае — і зноў прыкрае расчараванне. А гэта ўсё таму, што В. Рудчык, як сляпы сцяны, трымаецца снабізму.

Мы хочам, каб хоць раз у тыдзень пачуць беларускую мелодыю ў цэласці. А то тыцне, бы сабацы муху, і гаворыць, што добрага пакрысе. Беларуская мова не гучыць не толькі ў эфіры, але і на вуліцы. У эфіры адпушчана мала часу на яе, а на вуліцы нашы людзі адчуваюць сябе горшымі. Я ўжо пісаў, што ніхто на зямлі не сароміцца сваёй нацыі, толькі мы, беларусы. Гэта сведчыць аб нашым нізкім інтэлектуальным узроўні і недахопе пачуцця гордасці за сваю нацыю. А саромецца нам няма чаго. Беларусы ніколі на нікога не нападалі і з'яўляюцца інтэрнацыяналістамі, яны нікога не сегрэгуюць паводле нацыі. А што тычыцца барацьбы, то кожны чацверты беларус аддаў сваё жыццё ў вайне з фашызмам. Нямала нас згінула і ў сутычках з рэакцыйным падполлем у часе ўмацавання народнай улады. Нехта можа сказаць, што я паблытаў паняцці. Не, не паблытаў. Наша культура і фальклор не горшыя ад іншых рэгіёнаў, але розніца ў тым, што нас многія яшчэ „не заўважаюць". І ў гэтым месцы прыйшлі мы да вываду, што трэба зразумець Рудчыка. Што ён можа нам у такім абмежаваным часе даць паслухаць? Ён хоча даць як найбольш усяго пакрысе, а выходзіць, што мы астаемся незадаволенымі.

Выходзіць, што саромімся мы і нас саромяцца. А паводле маёй думкі, уся краіна павінна ведаць, што ў яе граніцах жывуць беларусы, якія акрамя добрага, нічога дрэннага не робяць і саромецца не маюць чаго, а ганарыцца чым маюць.

Роля беларускіх радыёперадач — папулярызаваць нашых людзей, іх дасягненні гаспадарчыя, культурныя і творчыя, а нам даць магчымасць паслухаць пра жыццё землякоў у вёсках, паслухаць вершы беларускіх паэтаў, прозу нашых пісьменнікаў, ну і часам „Дубочкі" ці „Каласкі", а маем не толькі іх. А час перадач? Рэдка хто ў поўдзень сядзе, ды і выслухае перадачу. Мы ж у той час працуем. Але гэта ўжо іншая справа.

У нас ёсць маса людзей, якія ўмеюць прыгожа пісаць. Я гэта пісаў на хуткую руку і баюся, што хаатычна, але ведаю, што іншыя напішуць больш прадумана.

**Васіль Петручук**

## ЗАЛАТОЕ ВЯСЕЛЛЕ

25 лістапада гэтага года, у загсе ў Гарадку адбылося ўрачыстае ўручэнне медаляў „За доўгае сямейнае сужыццё" васьмі парам. Атрымалі іх: Анна і Якуб Карповічы з Меляшкоў, Эва і Юзэф Хвойка з Вейкаў, Анастасія і Уладзімір Храноўскія з Бялевічаў, Марыя і Ян Юрчукі з Зарэчан, Вера і Юзэф Лукашэвічы з Даўнева, Вольга і Ян Дэрынгі з Валілаў-станцыі, Марыя і Канстанцін Маліноўскія з Залукаў і Лідзія і Юзэф Майсакі з Каралёвага Мосту.

Медалі ўручалі юбілярам начальнік гміны Аляксандр Бура і сакратар гміннага камітэта партыі Мікалай Дуброўскі. Былі тосты, пажаданні і кветкі. На ўрачыстасці прысутнічалі сем'і ўзнагароджаных.

Шаноўным юбілярам жадаем добрага здароўя і каб дажылі да ста гадоў.

Тэкст і фота **Я. Целушэцкага**






## АДЛЕГЛАСЦЬ

Адлегласць ад пункта „А" да „Б"
Такая ж, як адлегласць ад „Б" да „А".
Што з'яўляецца аксіёмай,
Вядомай і дашкольнікам.
Чаму ж тады дарога дамоў
Карацейшая, як з дому,
Аб чым знае нават конь.
А дарога да цябе
Карацейшая, як ад цябе,
Аб чым сведчаць мае ногі,
А дарога ад плуга да пяра
Карацейшая, як ад пяра да плуга,
Што сцвярджаюць
І мае крытыкі.

**Максім Танк**



 

 

(Працяг са стар. 1)




з прэзентацыяй творчых здабыткаў нашых літаратараў з „Белавежы“, выдавецтвамі БГКТ і іншым, словам — **вялікі штогадовы беларускі кірмаш.** Трэба заахвочваць да працы над вывучэннем народнай творчасці беларусаў у Народнай Польшчы як мага больш этнографаў, фальклярыстаў, музыказнаўцаў, любіцеляў народнай творчасці і ствараць ім прыхільныя ўмовы для публікацыі сабраных матэрыялаў, даследаванняў, нарысаў, рэпартажаў. Пачаць працу над перыядычным выданнем „Народная творчасць беларусаў у ПНР“. Неабходна ўстанавіць цеснае супрацоўніцтва БГКТ з Цэпэліяй, Польскім турыстычна-краязнаўчым таварыствам і іншымі вытворчымі і культурна-асветнымі арганізацыямі, што займаюцца народным рамяством, арганізацыяй розных экскурсій і выданнем папулярных краязнаўчых інфарматараў, паштовак і іншых выданняў, для папулярызавання беларускага фальклору ў Польшчы і па-за яе межамі.

Пасля даклада разгарнулася ажыўленая дыскусія. Прынялі ў ёй удзел: **А. Баршчэўскі, Ф. Галёнка, Я. Зенюк, А. Іванюк, Ф. Садоўскі, Ю. Туронак, В. Швед.** Выступаючыя выказалі падтрымку прадстаўленым М. Гайдуком прапановам, а таксама звярнулі ўвагу на неабходнасць адводзіць больш увагі народным спявачкам, уключаць у збіранне фальклору моладзь Бельскага і Гайнаўскага беларускіх ліцэяў пад кіраўніцтвам настаўнікаў, наладзіць супрацоўніцтва з групай выкладчыкаў і студэнтаў Беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта, што займаюцца збіраннем і вывучэннем фальклору Беласточчыны, заахвочваць літаратараў з аб'яднання „Белавежа“ да творчага скарыстання беларускага фальклору ў іх творчасці і інш. Пленум стварыў спецыяльную праграмную камісію ў складзе: **А. Баршчэўскі, М. Гайдук, М. Кандрацюк, Я. Петручук і У. Юзвюк** і абавязаў яе апрацаваць і прадставіць да разгляду на наступным пленуме ГП БГКТ доўгатэрміновую комплексную праграму дзеяння па ахоўванню, развіванню і скарыстанню ва ўсіх галінах дзейнасці нашага таварыства розных відаў народнай творчасці беларусаў, пражываючых у Польшчы.

**І. Снарскі**

**АКТЫВІСТЫ БГКТ, СТАРАННА АХОЎВАЙЦЕ РОДНЫ ФАЛЬКЛОР! ГЭТА НАШ СТАТУТОВЫ АБАВЯЗАК.**

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### НАИЛЕПШЫЯ Ў ЗБОРЫ НА НФОЗ

Да канца кастрычніка гэтага года (гэта значыць за роўна дзесяць месяцаў) у Беластоцкім ваяводстве свае планы збору грошай на Нацыянальны фонд аховы здароўя (НФОЗ) выканалі жыхары: двух гарадоў Бельска (у 106,2%) і Гайнаўкі (103,3%); чатырох гарадоў-гмінаў Лапы (102,1%), Монькі (100,6%), Васількова (100,1%) і Саколкі (100%) і дзевяці гмінаў: Юхновец (114,7%), Дзядковіцы (110,3%), Крыпна (110,1%), Кляшчэлі (104,1%), Чыжы (102,5%), Тыкоцін (101,6%), Дабжынева (101,3%), Сідра (100,4%) і Бельск (100%).

### БУДУЦЬ ЛЕПШЫЯ ДАРОГІ.

Сёлета ў Гайнаўскай гміне звернута асаблівая ўвага на пабудову дарог. У грамадскіх пачынах і пры дапамозе гмінных улад будаваліся дарогі: з Трывежы ў Катоўку (тут жыхары гэтых вёсак выканалі работу на агульную суму 55 тысяч злотых), з Савінага Груда ў Дубіны (тут вартасць пачыну ў 58 тысяч злотых), а таксама вуліцы ў Трывежы і Барку.

Яшчэ ў снежні гэтага года сяляне з Савінага Груда і Дубінаў на дарогу паміж гэтымі вёскамі прывязуць і раскінуць 1500 кубаметраў жужалю.

Некторыя дарогі патрабавалі рамонту і ён быў зроблены на дарогах: з Прагалёў да бельска-гайнаўскай шашы, з Арэшкава ў Пасечнікі Вялікія і з Лазіцаў на палі.

### НОВЫЯ ПАЧАКАЛЬНІ

На аўтобусным прыпынку ў Трасцянцы ёсць ужо новая трохсценная пачакальня. У дождж або ў завіруху ёсць дзе схавацца.

Добра, што гмінныя ўлады ў Нарве паклапаціліся пра такія дашкі ў Трасцянцы, Анцутах і Рагазах. За гэта належыцца ім падзяка ад тутэйшых пасажыраў ПКС.

### КАБ ЗЯМЛЯ РАДЗІЛА

У Гайнаўскай гміне асаблівую ўвагу ўлады адводзяць справам дрэнацыі зямельных угоддзяў. У 1976 годзе былі закончаны работы на аб'екце Махнатае, а ў 1977 годзе — на аб'екце Гурнае. Сёлета поўнасцю закончана дрэнацыя палёў жыхароў вёскі Хітра і зараз заканчваецца дрэнацыя ў Старым Корніне. У ваколіцы Старога Корніна выкананы работы на суму 3 336 тысяч злотых.

### НАЙБОЛЬШ ПРАДАЮЦЬ

У Гайнаўскай гміне найбольш парасят прадаюць СКРам для далейшай гадоўлі наступныя сяляне: Ян Трашчотка са Старога Беразова (больш ста штук), Ала Панцэвіч з Ліпінаў (150 штук), Анастасія Балтрамюк з Навасадаў і Андрэй Габрылеўскі з Трывежы.

(яц)



## Нумізматыка

Вельмі цікавую выстаўку падрыхтаваў мгр інж. Здзіслаў Новак, настаўнік у Лясным тэхнікуме ў Белавежы. У Ізбе нацыянальнай памяці адрэкамендаваў звыш 600 штук банкнотаў і манетаў, якія былі ў абароце за 60-гадовы перыяд існавання незалежнай Польшчы. Экспазіцыю адкрывалі плебісцытныя білеты з 1918-20 г.г. і білеты Польскай краёвай пазыковай касы з 1919 г., а закрывала 20-златовая манета з польскім касманаўтам М. Гермашэўскім, выдадзеная некалькі тыдняў таму назад. На выстаўцы паказана таксама 37 кніжак і брашур на нумізматычную тэму, якія выйшлі або датычаць перыяду 1918-1978.

Зборы З. Новака выклікалі сярод наведваючых вучняў і экскурсантаў вялікае зацікаўленне. Заахвоціла гэта вядомага на Беласточчыне нумізматыка (за 15 гадоў сабраў звыш 2 тыс. манетаў і звыш 200 кніжак і брашур) і філатэліста, каб падрыхтаваць новую выстаўку, звязаную тэматычна з 60-годдзем незалежнай Польшчы — выстаўку польскіх марак.

**П. Байко**




(Працяг са стар. 1)

смерці. Праз некалькі месяцаў лячэння ў ваенных шпіталях ён пачаў выздараўліваць, а пазней, калі скончылася вайна, вярнуўся дамоў. Не пазналі яго аднавяскоўцы, не пазналі яго ў роднай хаце, бо меў знявечаны твар, стаў інвалідам. Але вярнуўшыся, не сядзеў бясчынна. Айчына патрабавала людской самаахвярнасці. І ён актыўна ўключаецца ў дзейнасць, пераўтвараючую аблічча нашай краіны.

У беларускіх вёсках пачалі ствараца ячэйкі ППР. І ў Новым Беразове людзі, адданыя народнай уладзе, уступілі ў рады ППР. Прыняты быў таксама Міхась Кучка. Яго партыйцы выбралі сакратаром. І з гэтага часу быў ён адданым прапагандыстам партыйнай лініі ППР. Быў усюды там, дзе было найцяжэй, дзе патрабавалася вялікая адказнасць. І падчас рэферэндума і падчас першых выбараў у Сейм быў ахвярным байцом партыі. У 1946 годзе павятовыя ўлады з Бельска прывезлі вінтоўкі і ўзброілі ў першую чаргу членаў партыі, каб маглі яны даваць адпор рэакцыі.

У 1947 годзе Міхась Кучка выязджае ў школу ў Мальбарк, а пасля яе заканчэння працуе ў Кракаўскім ваяводстве ў спулдзельні „Напшуд“. Праўда, працуе там не так доўга, бо ўжо ў 1951 годзе ў Бохні заканчвае педагагічныя курсы і працуе настаўнікам. У 1952 годзе на настаўніцкую працу пераехаў у вёску Тарнопаль, што непадалёк Нараўкі. Тут таксама не быў доўга. Яго прымаюць на працу ў бяспецы.

У 1956 годзе ён вучыцца ў электрычным тэхнікуме і пасля працуе ў Гайнаўцы. Ад 1961 года стаў ён працаўніком павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы. Адначасова прымае ўдзел у працы многіх арганізацый, у тым ліку залічаецца да актывістаў Галоўнага праўлення БГКТ. Доўгі час быў членам рэвізійнай камісіі гайнаўскага аддзела БГКТ.

Ён ужо пенсіянер. Але і далей з'яўляецца ціхім грамадскім дзеячом. Ён цяпер з'яўляецца сакратаром тэрэновай партыйнай арганізацыі, актывістам ЗБоВіД і членам пленума ГП БГКТ.

Задаволены сваёй сям'ёй, сваімі сынамі, якія з'яўляюцца выдатнымі спартсменамі.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**

## НАЙБОЛЬШАЯ ГМІНА

Бельская гміна з'яўляецца найбольшай у Беластоцкім ваяводстве. Займае яна амаль 42 тысячы гектараў зямлі, у тым ліку 34 800 га зямельных угоддзяў. Належыць да яе 56 вёсак, у якіх налічваецца 3682 гаспадаркі. Аб тым, якія гэта гаспадаркі, якую даюць вытворчасць, якімі справамі жывуць улады гэтага мікрарэгіёна, расказаў нам начальнік гміны Іван Семянюк.

Гаспадаркі гэтыя розныя. Ёсць малыя, слабыя і бесперспектыўныя, ёсць сярэднія і ёсць эканамічна моцныя. Справа ў тым, каб зрабіць цяпер усё, што можна, дзеля таго, каб як найбольш гаспадарак стала высокатаварнымі. Ужо цяпер у гміне налічваецца 110 спецыялістычных гаспадарак, якія не толькі даюць высокую сельскагаспадарчую прадукцыю, але адначасова выконваюць папулярызатарскую ролю, заахвочваючы іншых гаспадароў пайсці іх слядамі. А вось некалькі прыкладаў. Уладзімір Міхальчук з Кожына, Ніна Прызовіч з Парцава, Аляксей Лісоўскі з Зубава спецыялізуюцца ў адкормліванні свіней. Мікалай Аверчук з Дубяжына, Мікалай Лазовік з Сакоў, Іван Дзем'янюк з Левак узяліся за авечкагадоўлю. А некаторыя, як напрыклад, Юзэф Пац з Лубіна Касцельнага, Рыгор Верамчук з Аўгустова, Аляксей Матэнька з Райска спецыялізуюцца ў гадоўлі малочнага быдла. Практыка паказвае, што толькі спецыялізацыя аблягчае сялянскую працу і дае вялікія даходы.

— Думаем, — кажа таварыш Семянюк, — што да канца наступнага года колькасць гаспадароў са спецыялізацыяй павялічыцца да 200. Ёсць ужо кандыдаты і ўжо хутка ім можна будзе ўручыць карту „Спецыялістычная гаспадарка“.

У развіцці жывёлагадоўлі вельмі важную ролю адыгрывае рацыянальнае кармленне, выкарыстоўванне на корм кішонак. І на гэта ў сваёй дзейнасці звяртае шмат увагі бельская сельскагаспадарчая служба.

Кладзецца там таксама вялікі націск, каб і ў вырошчванні сельскагаспадарчых культур спецыялізаваліся сяляне, каб пераходзілі на вырошчванне адной культуры, так як гэта ў вёсцы Трускі, дзе амаль усе гаспадары садзяць многа цукровых буракоў.

Спецыялізацыя — будучыня нашай вёскі. Ужо цяпер, у гэтых яшчэ маладых спецыялістычных гаспадарках непараўнальна вышэйшая вартасць таварнай прадукцыі. У сярэднім на адну спецыялістычную гаспадарку ў бягучым годзе выходзіць 307 тысяч зл. а на адну неспецыялістычную вартасць таварнай прадукцыі акрэслілася сумай 75 тысяч зл.



*Начальнік гміны Іван Семянюк.*

Пару слоў аб сельскагаспадарчай адукацыі сялян. Прадбачваюцца курсы пашырэння агратэхнічных ведаў у Праневічах, Налогах, Леўках, Кнарыдах, Плюцічах, Галадах і Грабаўцы і заняткі па сельскагаспадарчай падрыхтоўцы ў Кнаразах.

У Бельскай гміне існуюць тры сельскагаспадарчыя каапературы, якія таксама спецыялізуюцца. У Дабраміле наставіліся на гадоўлю малочнага быдла, а ў Плёсках на свінагадоўлю. Сельскагаспадарчы каапературў у Гусаках існуе ўсяго яшчэ некалькі месяцаў.

Беспасрэдную дапамогу сялянам гміны нясе бельскі СКР, які выконвае свае абавязкі задавальняюча. Зразумела, ёсць там некаторыя недахопы, але з кожным годам іх усё менш.

Наступная справа — рамесніцтва. Гмінныя ўлады імкнуцца стварыць спрыяльныя ўмовы для павелічэння колькасці рамесных майстэрняў. Вядома, як на вёсцы: то каня трэба падкаваць, то чарапіца пачала працякаць і неабходна перакрыць, то сталярка патрэбная. Зараз Бельская гміна налічвае 68 рознатыпных па сваім характары пунктаў паслуг. Найбольш, аж 32 бетонна-мулярскіх. Ёсць восем кузняў і 14 сталярскіх майстэрняў, ёсць дзе малоць,



 

# ХАТКА над КРЫНІЦАЮ

Выйшаў са стадолы і прысеў на пянёчку над сажалкай, якая падыходзіць аж пад самую хату. Куры, відаць, ведалі, што гэта значыць, і пачалі збягацца. Не памыліліся. Дзядуля, выняўшы з кішэні лусту хлеба, пачаў яе крышыць і кідаць на зямлю.

— Люблю тут сядаць ды ўглядацца ў ваду. Здаецца, так, як бы там была другая палавіна свету, і дрэвы растуць, і лісце з іх сыплецца, і сонца свеціць. А якое там жыццё бурліць... — сказаў і кінуў некалькі крушынак у ваду, у якой заклубілася і хлеб мігам знік з паверхні. — А што, бачыце? — усміхнуўся.

Сядзіба Брузгаў ляжыць у прыгожым месцы, у канцы вёскі, на ўзгорку. Асабліва прыгожа тут вясной і ўлетку. На пні ўсохлага і высока падрэзанага дрэва завёў сваю гаспадарку бусел. Унізе, недзе з-пад хаты бурліць крынічная вада, якая выпаўняе сажалку і вузенькім ручайком адплывае да рэчкі.

— А яна тут ніколі не высыхае, — паясняе Кастусь Брузга. — Хай сабе і найбольшая засуха. Недзе пад хатаю ёсць крыніца і так бурліць. Цэлы час, як памятаю, то так было. Адтуль выплывае, туды адплывае, — паказвае рукой. — Плыве так, як чалавечыя гады.

Усе свае 75 год пражыў К. Брузга тут у Круглянах, што ў гміне Кузніца Беластоцкая, на гэтым жа месцы. Да дваццаці чатырох сам, потым з жонкай Янінай. Сын, падросшы, пайшоў працаваць у Саколку.

— Так, у чэрвені наступнага года будзе пяцьдзесят год нашага супольнага жыцця, — успамінаюць. — Усяго зазналі...

На працягу дзевяці год, пачынаючы ад 1946 года быў ён солтысам. У 1947 г. уступіў у ППР у Лясольнай Вялікай. Калі ўзнікла ПАРП, на працягу двух кадэнцый быў сакратаром.

— Найгорш было зараз пасля вайны, — гаворыць К. Брузга. — Банды. От прыдуць ноччу і грабяць. Пераважна да нас, партыйных, хаця і не толькі. То кантрыбуцыю наложаць, то паб'юць. У мяне два разы былі, веласіпед забралі.

— А памятаеш, як раз прыйшлі і гарэлкі ім давай? — прыпамінае жонка. — То наш меў дзесьці чвэртку, то і аддаў, адчапіліся, а Немкуця Івана аж да Кузніцы паўголага гналі.

Зараз Брузгі на пенсіі. Зямлю здалі дзяржаве. Застаўся толькі агародчык, каб было дзе для сябе нешта пасадзіць, ды і так, каб ужо не зусім без работы. Каб весялей, гадуе рыбу. У сажалцы аж кішыць. Хопіць толькі ўзмахнуць рукою, а так і выскачыць некалькі. Думаюць, што ежу ім кідаеш. Прывучаныя. Тут і карпы, і стронга. Цэняць і шануюць К. Брузгу жыхары. Ужо чацвёртую кадэнцыю з'яўляецца ён радным у гміне.



Дакрышыўшы да канца прынесены з сабой хлеб, падняўся з пянька: — Трэба ісці. Сын прыехаў, гною крышку вывезем на гарод. Ды і халаднавата неяк зрабілася, засядзеўся. Восень...

І скрыўся за дзвярыма стадолы.

**М. Шаховіч**

фота М. Хмялеўскага

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...ад 1970 года ў Польшчы арганізавана 1200 новых сельскагаспадарчых прадукцыйных спулдзельняў. Зараз гаспадараць яны на 630 тыс. га.

...у нашай краіне дзейнічае 87 клубаў міжнароднай прэсы і кніжкі. У 65 з іх вядзецца 1200 курсаў замежных моваў, на якіх лектары вучаць 11 мовам. **(яц)**

правесці электрычны ток, цэнтральнае ацяпленне. Апрача гэтага, далі дазвол прыватным асобам, маючым свае агрэгаты, на малацьбу людзям. Усё гэта вялікая палёгка сялянам. А вёска будуецца. У сярэднім на вёсках будуецца ад 60 да 80 будынкаў. Людзі сёння не ставяць хацінак ці хлеўчыкаў. Будуюць вілы, аборы, што цягне за сабой патрэбу розных паслуг. Не кожны ж чалавек з'яўляецца ўсебаковым майстрам.

— Будавалі б людзі намнога больш, але не хапае матэрыялаў, — гаворыць сакратар гміны Міхась Чаламей. — Вось можа, для прыкладу, як у гэтым годзе: на патрэбных 170 тон бэлек, атрымалі толькі 37 тон, калі трэба было 60 тон дроту, то атрымалі ўсяго 9, на 40,5 тысяч штук цэглы-дзюраўкі далі нам палову.

Не адной працай жыве сёння вёска. Як гміна дапамагае ў пабудове клубаў, святліц?

— Поўнасцю пакуль што не задавальняем патрэб вёскі ў галіне культуры, але стараемся, — гаворыць начальнік Іван Семянюк.

У гміне ёсць дванаццаць клубаў „Рух“, чатыры клубы селяніна, прыгожы дом культуры ў Райску. Дапамагаем цяпер будаваць такія памяшканні ў Відаве, Налогах, Грынявічах, Лубіне Касцельным. Вялікі ўклад уносяць і самі сяляне.

Неабходна адзначыць, што ў Бельскай гміне дзейнічаюць шматлікія харавыя і музычныя калектывы. Два з іх, у Дубяжыне і Райску, тыпова вясковыя. Наступныя два, падобныя на папярэдні, узнікаюць у Пасынках і Аўгустове. Ёсць і драмгурткі. Напрыклад, у Райску нядаўна ўзнік такі драмгурток і маладзёжны інструментальны калектыў, які абяспечылі новымі інструментамі. Людзі хочуць спяваць, іграць, весяліцца.

— Бяда ў тым, што адчуваем недахоп інструментаў. Няма каму пакіраваць, падвучыць, — гаворыць начальнік. — Пакуль што абслугоўвае Пятро Нявінскі. Работы як завязаць. Але хутка адыдзе на пенсію, а тады і падумай.

Бельская гміна развіваецца.

— Многае яшчэ трэба зрабіць. Наша мара, каб гаспадаркі не драбіліся ў сваім гаспадаранні. Не той час, каб сеяць ды гадаваць усяго пакрысе. Трэба заняцца нечым адным. І гаспадару тады будзе большая карысць, і дзяржаве. Каб падпарадкаваць палявую вытворчасць гадоўлі, каб была гармонія. Многае яшчэ нас трывожыць: і мінеральнае ўгнаенне, і меліярацыя, — гаворыць начальнік.

Не дае спакою як сялянам, так і гмінным уладам дрэнная якасць дарог. Знайшлі тут вельмі цікавы выхад. У сувязі з тым, што Раён публічных дарог не паспявае, дамаўляюцца з СКРам, каб стварыць спецыяльныя брыгады, якія б маглі гэта рабіць. Сяляне ахвотна працуюць грамадскім чынам, забяспечыць іх трэба толькі транспартам. Усё можна зрабіць. Галоўнае толькі знайсці адпаведны выхад, верыць у свае сілы.

**Міхась Хмялеўскі,**
**Міхась Шаховіч**

Фота Міхася Шаховіча

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### СЯМЕЙНАЯ

*Moderato*



— Ча — му, мі — лы, ко — ні — ка сяд-ла-еш?



Ку — ды, ку — ды, мі — лы, ад'-яз-джа-еш?



Ку — ды, ку — ды, мі — лы, ад'-яз-джа-еш?

*— Чаму, мілы, коніка седлаеш?*
*Куды, куды, мілы, ад'язджаеш?*
*Куды, куды, мілы, ад'язджаеш?*
*— Бывай, бывай, міла, здарова,*
*я — кавалер, а ты — бедна ўдова,*
*я — кавалер, а ты — бедна ўдова.*
*— Ні едзь, ні едзь, мой мілы, ад міне,*
*а хто ж тобе снеданне згатуе?*
*А хто ж тобе снеданне згатуе?*
*— У цёмным лесі зезюленька куе,*
*то она мне снеданне згатуе,*
*то она мне снеданне згатуе.*
*— Ні едзь, ні едзь, мой мілы, ад міне,*
*а хто ж тобе кашулю вымые?*
*А хто ж тобе кашулю вымые?*
*— У чыстым полі дромны дождждык хвошчэ,*
*то он маю кашулю спалошчэ,*
*то он маю кашулю спалошчэ.*
*— Ні едзь, ні едзь, мой мілы, ад міне,*
*а хто ж тобе пасцельку пасцеле?*
*А хто ж тобе пасцельку пасцеле?*
*— На балоце трава вылягае —*
*для казака пасцелька мяккая,*
*для казака пасцелька мяккая.*
*— Ні едзь, ні едзь, мой міленькі, мостам,*
*бо заросла дорожка хваростам,*
*бо заросла дарожка хваростам,*
*— Ест у міне конік вараненькі —*
*пэрэскочыць той хварост драмненькі,*
*перэскочыць той хварост драмненькі.*
*— Ні едзь, ні едзь, мой мілы, барамі,*
*бо заросла дарожка чарамі,*
*бо заросла дарожка чарамі.*
*— Ест у міне конічок буланы —*
*перэскочыць чэрэз тые чары,*
*перэскочыць чэрэз тые чары.*

Ад Антаніны Лясоты, 1901 года нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў г. Беластоку, запісаў 3 лістапада 1978 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XIX

**„Сымон-Музыка“ як твор рамантычны**

Паэма „Сымон-Музыка“ амаль усёй істотай свайго зместу і формы звязана з прыёмамі рамантычнай паэтыкі і прынцыпамі рамантычнага героя.

Галоўным персанажам — увасабленнем рамантычнай ідэалогіі з'яўляецца ў творы яго герой Сымон. У яго характары праяўляецца найпаўней рамантычны прынцып культу чалавечай выключнасці. Такія рысы і схільнасці Сымона, як канфлікт з асяроддзем, адзіноцтва, цярпенне, вагантызм, ірацыянальныя адносіны да прыроды, незвычайнае каханне, цудадзейны ўплыў на людзей і прыроду, — усё гэта тлумачыцца вернасцю пісьменніка ідэям рамантычнай паэтыкі. Гэтымі ж ідэямі можна растлумачыць схільнасць Сымона да ўнутранага маналогу, схільнасць да супрацьстаўлення чалавечага эгаізму альтруізму прыроды, пошукі праўды і імкненне да перадачы яе другім, місіянерства, канфлікт героя не толькі з іншымі людзьмі, але і з самім сабой.

Адзін з галоўных рамантычных матываў у паэме — канфлікт Сымона з акружаючымі яго людзьмі праяўляецца на розных этапах яго жыцця. Спачатку выступае ён у непаразуменнях паміж Сымонам і яго бацькамі, пазней становіцца пастаянным элементам суадносін Сымона з людзьмі, якіх спатыкаў ён у часе вандровак. Галоўнай прычынай непаразуменняў Сымона з асяроддзем была яго выключная эмацыянальнасць і ўражлівасць, яго спецыфічнае ўспрыманне свету. Схільнасці гэтыя не знаходзілі зразумення з боку іншых людзей. Вось тыповая для рамантыкаў характарыстыка Сымона:

Так і праўда: непадобны
Быў Сымонка да другіх.
Гэта быў хлапчук асобны...
...Нёс віну за ўсіх на свеце.
Вінаваты без віны,
З ім і дзеці не дружылі,
Не прымалі да гульні,
І ў самоце прахадзілі
Веснавыя яго дні.

Індывідуалізм Сымона становіцца ўжо ў дзяцінстве прычынай многіх камплікацый і прыкрасцей. Нягледзячы на іх, Сымон усё больш пераконваецца ў перавазе самотнага бытавання над калектыўнымі формамі жыцця:

Непрыхільны, як сіротка,
Не прыласканы нікім,
Ведаў хлопчык, як салодка
Жыць вось так, сабой самім.

Як жа многа супольных схільнасцей у характары Сымона і класічных рамантычных герояў, аб якіх выдатны даследчык творчасці Міцкевіча польскі літаратуразнаўца Рыхтэр напісаў:

„Jednostka niezadowolona niekiedy z rzeczywistości, gardząca światem zewnętrznym, obdarowana przy tym nadmierną wrażliwością i wybujałą wyobraźnią, ucieka od tej brutalnej rzeczywistości, do której nie umie się dostosować i zatapia się w swoim życiu wewnętrznym” (Jan Bronisław Richter, Pierwiastki indywidualistyczne w twórczości A. Mickiewicza, Lwów 1927, s. 5).

Кожны са сказаў прыведзенай цытаты абсалютна падыходзіць да характару эмацыянальнасці, думак і ўчынкаў Коласаўскага героя Сымона-Музыкі.

## ANDRZEJ ROSIEWICZ



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

*Заказвала Хрысціна Каліноўская з Ляшукоў.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Прадпрыемства, на якім працаваў Ф., дало яму дрэнную апінію, у якой знаходзяцца сцверджанні, не згодныя з праўдай. На працягу некалькіх месяцаў ён не мог атрымаць працы з гэтай прычыны. Якая кампенсацыя прыслугоўвае яму?

АДКАЗ: Калі працаўнік не згаджаецца з выстаўленай яму апініяй, павінен на працягу трох дзён ад даты яе атрымання звярнуцца да кіраўніка прадпрыемства з прапановай яе выпраўлення. Калі прапанова на працягу 7 дзён не будзе ўзята пад увагу, працаўнік павінен не пазней чым на працягу 14 дзён ад атрымання апініі звярнуцца да кіраўніцтва вышэй стаячай ад прадпрыемства адзінкі, якая на працягу 14 дзён павінна канчаткова вырашыць справу. Калі б апінія асталася не згоднай з праўдай, і працаўнік у выніку гэтага быў без працы, можа ён звярнуцца да Камісіі па справах працы з патрабаваннем кампенсацыі. Прызнаючы кампенсацыю, камісія абавязана адначасова паправіць апінію. Кампенсацыя не можа быць вышэйшая, чым заплата за 6 тыдняў. Калі б у апініі былі сцверджанні, не згодныя з праўдай і не звязаныя з працай на даным прадпрыемстве (напрыклад, наконт яго сямейных адносін, або паводзін не ў часе працы, а якія б зневажалі працаўніка і прычынілі яму шкоду), можа ён праз ваяводскі суд дабівацца аховы свайго гонару і матэрыяльнай кампенсацыі.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, мне ўжо 18 год і маю я двух хлопцаў — Мірка, які вясною 1979 года выйдзе з арміі, і Аліка, які яшчэ паўтара года будзе служыць у ОГП. З Алікам я пазнаёмілася выпадкова. Ён прыехаў у маю вёску да сваякоў. Ад тае пары ён пачаў да мяне пісаць і прыязджаць. На другі дзень знаёмы з суседняй вёскі прывёў Мірка, які да мяне таксама піша і прыязджае. Мірэк мне не падабаецца, але бацькі і суседзі кажуць, каб я з Алікам не хадзіла, а з Міркам, бо Мірэк старэйшы, паважнейшы і хутчэй выйдзе з арміі, а Алік малодшы, доўга чакаць, ды яшчэ не адной веры — ён католік, а я праваслаўная. Праўда, ні Аліку, ні мне гэтая розніца ў веры зусім не перашкаджае, мы не звяртаем на гэта ўвагі, але вось людзі... Адзін і другі хлопец хацеў бы, каб я была яго, дык якога выбраць?

Аня з Беласточчыны

Аня! Перш за ўсё ты сама, кіруючыся сваімі пачуццямі, а не бацькі і суседзі, павінна выбраць сабе хлопца. Падабаецца табе Алік, з ім і хадзі. А з Міркам, калі ён табе не падабаецца, няма сэнсу. Ён старэйшы, паважнейшы, а ты маладзенькая, дык чаго спяшацца? Алік таксама малады. Пачакаеш, паўтара года не так ужо доўга. А ўжо справа веры ў разумнай сям'і ніякага значэння мець не павінна.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Адгадай мой сон. Здаўся ён мне вельмі дзіўным. Сніцца. што я сустрэла сваю сяброўку, з якой мы вучыліся ў сярэдняй школе. У гэтым годзе яна закончыла беларускую філалогію ў Варшаве. Мы быццам апынуліся ля гэтага будынка. Быў ён вельмі прыгожы, а вакол такая чысціня, паложаны тратуар. Сяброўка намаўляла мяне, каб я пачала вучыцца ў гэтым вучылішчы. Я крыху падумала. Ад навукі адцягнула мяне тое, што я мушу прасіць бацькоў, каб яны фінансавалі мяне за час свайго побыту ў гэтай школе.

Потым мы падышлі да вінды. Яна мне выдалася вельмі дзіўнай. Знаходзілася ў канцыстым стаўбе, мураваным. Нам трэба было ўвайсці ў вінду. Не памятаю, ці мы заехалі ў патрэбнае нам месца, толькі зноў мы стаялі ля будынка. Я прачнулася.

Школа мне вельмі часта сніцца.

Валя

Валя! Зусім нічога дзіўнага ў тваім сне не бачу. Проста, відаць, навука табе на душы. У гэтым напрамку будзеш мець, аднак, нейкія затрудненні, хаця павінна скончыцца ўсё па тваёй думцы.

**Астрон**

**Пошта Астрона.** Ірэна з Драгічына! Я ўжо пісаў не адзін раз, што пісьмовых адказаў на сны не высылаю. Часу не хапае.

## Этнаграфічнае акенца



*Хата Васіля Крукоўскага ў Пасынк ах.* *Фота Я. Целушэцкага.*

## Куток практычных ведаў




### ЖАНОЧЫЯ КЛОПАТЫ З ВАЛАСАМІ

Якая ж жанчына не хоча мець валасы буйныя, пушыстыя, здаровыя?! Тым больш, што ў апошні час якраз валасы экспануюцца як найважнейшы атрыбут моднага сілуэта жанчыны (калісь, напрыклад, гэта была шыя, бо модныя былі вялікія дэкальтэ; пасля ногі, бо ў моду ўвайшлі міні). Ну, а вось цяпер — валасы.

Але што рабіць, калі ў апошні час жанчыны ўсё больш скардзяцца на тое, што лысеюць?! Лекары і псіхолагі сцвярджаюць, што факт гэты звязаны са зменай стылю жыцця жанчын, з прысвойваннем пасляваеннымі дзяўчатамі мужчынскага стылю жыцця, звязанага з прафесіянальнай працай, а разам з тым са стомленасцю, нервовымі хваробамі, спешкай і гарачым рытмам дня.

На непакоячы стан валасоў у жанчын уплывае агульны стан арганізму, слабая неўра-вегетатыўная раўнавага, парушэнне функцыянавання залоз унутранага выдзялення, адным словам, псіхафізічны стан. Апошнія доследы ўказваюць таксама на тое, што амаль трэцяя частка лысеючых жанчын або прайшла няправільны курс худзення, або мае гарманальныя парушэнні.

Немалое значэнне ў гэтай справе маюць і механічныя фактары. Перш за ўсё датычыць **гэта мыцця валасоў** рознымі шампунямі, штучнымі, але прыдаючымі валасам мяккасць і пушыстасць. Шампуні паявіліся ў канцы саракавых гадоў. Нягледзячы на свае добрыя якасці, аднак шампунь адмоўна ўплывае на валасы. З часам валасы слабеюць, іх становіцца ўсё менш. Найлепшыя сродкі мыцця — натуральныя (напрыклад, прэпарат з „панамскага дрэва").

Старая „халодная" завіўка з'яўляецца намнога менш шкоднай, чым „гарачая", але нават і яна шкодзіць пры сухіх і ламлівых валасах.

Дрэнна ўплывае на валасы і фарбаванне. Валасы моцныя, тоўстыя і тлустыя лепш пераносяць фарбу і перагідрол.

Не варта таксама моцна закручваць нанач валасы, часта лакіраваць іх, не варта насіць цесныя галоўныя ўборы.

Змагацца з лысеннем трэба яшчэ перад тым, як вылысеем, а не тады толькі, калі, змучаныя завіўкамі, фарбамі і рознымі іншымі ўпрыгожваючымі сродкамі, валасы пачынаюць ламацца і выпадаць і за адзін дзень мы трацім значна больш, чым 50-60 валасоў. Трэба таксама рацыянальна харчавацца, не забываючы аб вітамінах, ды наогул сачыць за сваім здароўем.

**Эскулап**




Камандзіру кулямётнага ўзвода лейтэнанту Яўсею Блізнякову было дваццаць тры гады, калі яго, цяжка кантужанага, узялі на полі бою ў палон. Акрыяўшы крыху ў вагоне таварнага поезда, які вёз палонных на захад, Яўсей думаў аб адным: „Уцячы, змагацца..."

Доўга расказваць, як пасля некалькіх няўдалых спроб ён усё ж уцёк. Уцёк не адзін: іх было сямёра. Але не было зброі. Нехта з гураляў дапамог ім звязацца з польскім партызанскім атрадам.

З часам пры дапамозе польскіх партызан Арміі Людовай яны здабылі зброю, а ў іх атрадзе налічвалася ўжо больш сарака чалавек. І тады ў лесе яны сустрэлі групу разведчыкаў Савецкай Арміі „Голас" на чале з капітанам Беразняком (тады Міхайлавым). Пасля налёту на канспіратыўную кватэру ў вёсцы група перабралася ў горы. Беразняк прапанаваў Блізнякову аб'яднацца з групай. Запрасілі Цэнтр. Адказ быў станоўчы. Група „Голас" атрымала моцны атрад ваенных разведчыкаў на чале з лейтэнантам Блізняковым. „Голас" стаў магутным.

„Вось ён, наш савецкі чалавек", — думаў я, слухаючы ў той вечар над Прыпяццю расказ Блізнякова пра сяброў і пра сябе. Нават не маючы зброі, ён працягваў змагацца. Думаў я пра расказ Яўсея Нікіфаравіча і на другі дзень, вяртаючыся з Нафтахімбуда ў Мазыр.

Ля новай гасцініцы я выйшаў з аўтобуса. Зірнуў у блакнот: „Вятрова, 55". Дык гэта недзе тут блізка. Учора пры развітанні Блізнякоў даў мне свой дамашні адрас і запрасіў: „Пазнаёмлю вас з Валянцінам Іванавічам Шыпіным. Цудоўны хлопец. Валжанін. Адважны лётчык і разведчык".

Праз некалькі хвілін я быў на ганку невялікага дома. За дзвярыма чулася песня:

Это было недавно,
Это было давно...

Прыемны голас ліўся плаўна, як Волга. „Значыць, сябры сустрэліся", — падумаў я і адчыніў дзверы. Спяваў Шыпін.

Як, здаецца, гэта было нядаўна, а прайшло трыццаць гадоў. Смеючыся і перабіваючы адзін аднаго, сябры пачалі расказваць, як сустрэліся:

— Я заканчваў работу і збіраўся ісці на вакзал, — пачаў Блізнякоў.

— А я трапіў у другі поезд і прыехаў раней, — у сваю чаргу сказаў Шыпін. — Чаго чакаць! Адрас месца работы ведаю. Мне сказалі, у якім пакоі працуе галоўны інжынер...

— Гляджу — уваходзіць нейкі чалавек. Думаў, начальства. Усё ж трыццаць гадоў не бачыліся...

— І я не пазнаю: белая шавялюра, а была ж...

— Падае ён мне руку: Шыпін — кажа. Ах ты, чорт, Валька, і мы абняліся...

З-за стала падняўся яшчэ адзін госць:

— Леанід Мікалаевіч Філічаў, — прадставіўся ён.

— Таксама ваенны разведчык, — дадаў Блізнякоў. — З групы „Волга", якая дзейнічала ў Тухольскіх лясах і Гданьскім ваяводстве. Наш мазыранін...

— А я вас, здаецца, ведаю. Ваша фатаграфія ў музеі. Вы стаіце на трыбуне...

— Так, — пацвердзіў мой новы знаёмы. — Здымак зроблены ў час сустрэчы з сябрамі па зброі ў Гданьску. Мяне час ад часу запрашаюць. Еду ў Польшчу на трыццацігоддзе. Ужо маю запрашэнне...

...І была ноч на Прыпяці. Вогнішча, бульба па-беларуску, залацістая, з дымком юшка, смачней якой няма на ўсім свеце, грыбы дамашняга засолу. Пахла віннымі яблыкамі, лазой, тонкім араматам шматтраўя і лугавымі кветкамі.

Мы ляжалі ля кастра на свежаскошаным сене. Успаміналі мінулае. Наогул больш маўчалі. Глядзелі, слухалі, як „звезда с звездою говорит".

Раптам за паваротам паказаліся агеньчыкі. Зялёныя, чырвоныя: з цемры ночы выступілі сілуэты барж, і я пачуў усхваляваны голас Яўсея:

— Плывуць, плывуць хлопцы. Вязуць крываарожскую руду. Ім доўга яшчэ плыць па рэках, каналах. І ведаеш, куды, камандзір? У Польшчу, у наш Кракаў, у ленінскую Новую Гуту...

— Дык ты, Яўсей Нікіфаравіч, — сказаў Шыпін, — можна сказаць, з адной разведкі трапіў у другую.

— І ў абодвух выпадках, — усміхнуўся Блізнякоў, — на карысць нашаму і суседняму раёнам: нафта, якую мы шукаем і здабываем, плыве па трубаправоду „Дружба" і ў народную Польшчу...

*Мазыр — Мінск.*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Уладзімір Гедзіч — майстар на ўсе рукі

Я чытаю „Ніву“, і мне яна вельмі падабаецца. У ёй многа цікавага, але найбольш цікавяць мяне рубрыкі „Майстар на ўсе рукі“ і „Людзі добрай работы“. Можа таму цікавяць мяне такія людзі, што я і сам трохі займаюся майстэрствам і люблю нешта зрабіць. Але не пра сябе я хачу напісаць. Вядома, хваліцца брыдка. Але я хачу напісаць аб адным чалавеку, з якім аднойчы пазнаёміўся ў вёсцы Баброўнікі Гарадоцкай гміны. Яго завуць Уладзімір Гедзіч. Аж я яму пазайздросціў! Ён усё можа сам зрабіць. Не толькі ў гаспадарцы, як кавальскую, сталярскую і іншыя работы але нават у вольны час займаецца мастацтвам. Малюе партрэты і краявіды. Рамантуе гадзіннікі і стрыжэ не толькі аднавяскоўцаў, але і сам падстрыгаецца. Адначасова ён добры і сумленны гаспадар. Я часта аб ім думаю і добра помню, што мне сказаў аднойчы: „Хто сам ўсё зрабіць можа, той ніколі адпачыць не зможа“. Можа то і праўда.

Таму я хачу звярнуць вашу ўвагу, дарагія рэдактары, можа хто калі будзе ў вёсцы Баброўнікі, наведайце гэтага чалавека.

Ваш Чытач

**Ад рэдакцыі.** Пакуль хто з журналістаў наведае вёску, з прыемнасцю друкуем вашу заметку аб цікавым чалавеку. Робім гэта заўсёды ахвотна. Прытым занадта не скромнічайце, пішаце вельмі добра і таму варта пісаць часцей. А яшчэ падайце свой адрас.

### ДНІ САВЕЦКІХ ФІЛЬМАЎ

Кожны год у нас праводзіцца дэкада савецкіх фільмаў. У Чаромсе ў лістападзе мы змаглі паглядзець многа цікавых савецкіх фільмаў. Вось некаторыя з іх: „Цяжкія гадзіны“, „Такі вялікі хлапец“, „Руды“, „Як цар Пятро Ібрагіма сватаў“. Асабліва гэты апошні спадабаўся нашай моладзі.

Трэба сказаць, што ў Дні савецкіх фільмаў кіраўніцтва Дома культуры наладзіла супрацоўніцтва са школьным гуртком ТППР, які пастаянна арганізаваў паходы на фільмы. **(ус)**

### ДБАЙНАЯ ПРАДАЎШЧЫЦА

Ёсць розныя працаўнікі гандлю. І такія, што вельмі дбаюць, каб у краме нічога з тавараў не бракавала.

Да такіх належыць Анна Кардылевіч з вёскі Істок у Дубіцкай гміне. Ужо некалькі гадоў яна працуе ў мясцовай краме, якая змяшчаецца ў будынку колішняй школы. Хаця тут і цесната, але могуць пазайздросціць тыя, што прадаюць у вялікіх і прасторных крамах. У іх наўрад ці знойдзецца столькі патрэбнага для сялян тавару. А вось тут, у Істоку, можна ўсё купіць, бо маладая прадаўшчыца ведае, як весці гандаль і стараецца. Яна часта пытаецца ў аднавяскоўцаў, што ім патрэбна, і пасля такой кансультацыі едзе ў ГС у Кляшчэлі ці ў Гайнаўку і на месцы патрабуе тое, што людзі ёй заказалі.

У краме чыста і ўтульна. А тое, што багата яна рознымі таварамі, магу пацвердзіць асабіста: нідзе не мог я купіць клямку да дзвярэй, нават у Бельску і Беластоку, а вось у краме Анны Кардылевіч гэтая рэч была і я яе купіў. Людзі задаволены сваёй дбайнай і акуратнай прадаўшчыцай, якая і да людзей адносіцца ветліва і культурна. Таму жыхары вёскі Істок у гэтым годзе, калі былі перавыбары солтысаў, аднадумна выбралі солтысам Анну Кардылевіч. Апрача ўсяго, яна і радная ў нашай гміне. Усе абавязкі выконвае паспяхова.

**М. Панфілюк**

### КАБ БЫЛО ПРЫГАЖЭЙ

Каля святліцы ў Крывяцічах ёсць „Зялёны астравок“. Сяляне абгарадзілі яго прыгожым плоцікам, пасеялі там траву, пасадзілі дрэўцы. На жаль, малыя дзеці павыломвалі саджанцы. Варта, каб крывяціцкая моладзь пасадзіла другі раз дрэўцы, а таксама занялася нейкай выхаваўчай працай для малышоў. Хто ж мае іх навучыць шанаваць пасаджанае дрэўца, як не старэйшыя?

**І. Кірызюк**

Толькі скнара і лянівы
Не выпісывае „Нівы“

## Дзядзька Квас, і я да вас!

Нумар ў нумар, ў кожнай „Ніве“ —
Ўсё пра Кваса трубяць.
Але як жа быць інакш,
Калі ўсюткі Кваса любяць!..

Не пагнявайся, дружа, на мяне за слова трубяць. Я яго ўвёў толькі для рыфмы. Ды яно і праўду кажа — трубяць пра цябе ўсюды і ўсе. А можа лепш будзе сказаць — пяюць. Мяне доўга не было дома. І вось, калі вярнуўся, застаў цэлы пучок сабраных жонкай „Ніў“ і амаль усю ноч іх „пераглядаў“. З прыемнасцю чытаў усё тое, што пра цябе, Дзядзька Квас, пісалі іншыя, і тое, што ты пісаў сам пра сябе. Я вельмі рады, што твае слова, бы паплавок, плыве па рацэ, так ты плывеш паверх усіх нас — карэспандэнтаў.

Цябе, Дзядзька Квас, ніхто з карэспандэнтаў і чытачоў не бачыў, а ўсё ж усе цябе і так ведаюць і „Ніву“ пачынаюць чытаць ад цябе. Я — не, бо я люблю „закусваць“ найгажэйшым і ўмею цярпліва чакаць гэтага найгажэйшага да апошняй хвіліны.

Чытаючы твае выказванні пра ўласную творчасць, як лёгка робіцца чалавеку, што людзі бываюць вялікімі сваёй скромнасцю.

Дзякую за гэта, Дзядзька,
І прашу, пішы далей,
Можаш быць яшчэ вастрэйшым —
І рві з корнямі пірэй!

**Васіль Петручук**

### АДНОЎЛЕНЫЯ СУВЯЗІ

Даволі даўно на аснове двухбаковага дагавору Чаромху наведвалі беластоцкія артысты з тэатра імя А. Вянгеркі і лялечнага тэатра „Свершч“. У апошні час супрацоўніцтва было неяк парвалася, аднак кіраўнік дома культуры „Калеяж“ Мікалай Гарадкевіч увесь час стараўся, каб парваныя сувязі наладзіць, і дабіўся свайго.

У кастрычніку дзеці зноў змаглі паглядзець цікавую пастаноўку тэатра лялек „Як Марыся гусак згубіла“. Неўзабаве таксама наведаюць Чаромху артысты з тэатра А. Вянгеркі. Добра, што супрацоўніцтва зноў наладзілася. Чыгуначнікі нашы таксама хочуць культурна праводзіць свой свабодны час.

**(ус)**

### НАЙПРЫГАЖЭЙШЫЯ

Вясною гэтага года пасялковы камітэт нумар 4 у Гайнаўцы аб'явіў конкурс на найлепш загаспадараны дом і агарод. Удзел у конкурсе прыняло 44 гаспадары. У жніўні камісія ў складзе: Панькоўскі Ян і Кедыш Казімір, — агледзелі агароды і ацанілі конкурс.

Першае месца заняла Ніна Дзем'янюк з вуліцы Ліповай 121. Другое месца — Ніна Бірыцкая з Ліповай 119, трэцяе — Сцяпан Карпюк з вуліцы Падляссе 4, чацвертае — Уладзімір Баўтрамюк з Ліповай 118, пятае — Марта Чарнушыц з Ліповай 107.

Пераможцы атрымалі грашовыя ўзнагароды і дыпломы начальніка горада.

**Вірскі**

### ПРЫКЛАДНАЯ ДРУЖЫНА

Пажарнікі з Тафілаўцаў, Дубіцкай гміны, ў святочныя дні ўжо некалькі разоў працавалі грамадскім чынам пры пабудове сваёй рамізы са святліцай. Дапамагалі ім іншыя жыхары вёскі. Цэлы пляц ужо абгарадзілі драцяной сеткай, а таксама забетанавалі плашчадку — уезд у рамізу. Навокал навазілі жвіру і пяску, каб ліквідаваць балота.

Дружына тафілаўскіх пажарнікаў налічвае 25 чалавек. Людзі добрасумленныя, ахвярныя і не адзін грамадскі чын без іх удзелу не абышоўся. Усе бяруць прыклад са сваіх начальнікаў: Яна Ролі — каменданта пажарнай дружыны ў Тафілаўцах і Уладзіміра Хіліманюка — прэзаса, адначасова солтыса вёскі. Іх грамадскую працу дагэтуль каля будынка рамізы можна ацаніць прыблізна на 15 тысяч зл., але гэта толькі пачатак. Несумненна, яны далей будуць прадаўжаць такім жа чынам пабудову гэтага патрэбнага вёсцы аб'екта.

**М. Панфілюк**

### наша ПОШТА

**М. Андросюк.** Вашы вершы перадалі мы „Белавежы“.

## Лубін у казеіне

У апошні час у сушарні Акруговай малачарскай спулдзельні ў Гайнаўцы гаспадары з навакольных вёсак пачалі дасушваць сёлетні лубін, сабраны камбайнамі з палёў. Вядома, пагода была некарысная, а насенная цэнтраля сырога лубіну не прымае.

У гэтай справе маю я крытычныя заўвагі адносна такога засушвання і адначасовага вырабу казеіну, прадукту, які атрымліваецца з малака, а які дадаецца да каўбас. Варта яшчэ сказаць, што гайнаўская ОСМ славіцца з высакаякаснага вырабу казеіну, які высылаюць на экспарт. Быў я навочным сведкам, як гаспадары прывозілі штодзень сушыць па некалькі тон сырога лубіну, зусім нячышчанага, з розным смеццем ды яшчэ з жывымі кузакамі. Праўда, многія гаспадары трапілі ў сушарню першы раз і, не маючы ў гэтым ніякага вопыту, як кажуць, на вока самі пускалі пару і ўключалі вентылятары, а той бедны лубін ад гарачыні аж лопаўся і такі ўжо на насенне не будзе надавацца, а толькі на корм рыбам. На дадатак вентылятары раздмухвалі пыл і смецце на сцены, а што горш, і ў казеін, пакрываючы яго рознымі брудамі і горкасцю. Нярэдка ў казеін трапляўся і лубін, бо прадукт гэты ў той час выраблялі пабач у адлегласці аднаго метра. Цікава, як цяпер будуць смакаваць каўбасы з горкім лубінам ды іншымі неспадзяванымі прысмакамі?

**Чытач**

## Хацелі лепш — выйшла горш

Шмат гадоў па дарозе з Гайнаўкі ў Агароднікі ездзіў аўтобус. Раніцай ён ад'язджаў з Агароднікаў, ехаў праз вёскі Іванкі, Нараў, у Ласінцы паварочваў і аб'язджаў яшчэ шмат іншых вёсак. Пасля поўдня ў 16³⁰ зноў ад'язджаў з Гайнаўкі гэтай жа самай дарогай і начаваў у Агародніках.

Многія ездзілі гэтым аўтобусам на работу і ў школу.

Ад чэрвеня гэтага года ўсё змянілася. Аўтобус ездзіць па тым жа маршруце, але за Агароднікі едзе яшчэ праз Белкі ў Трасцянку. Вяртаецца і начуе ў Нарве. Было б яшчэ паўбяды, але аўтобус перастаў ездзіць рэгулярна. Пасля поўдня едзе, а раніцай яго няма. Людзі стаяць і чакаюць дарэмна. Так здараецца вельмі часта.

Аднойчы я ехала гэтым аўтобусам і ён проста ўзяў і паехаў у Беласток. Шафёр сказаў, што самі мы вінаваты за гэты балаган. Праўда, можа не абдумана была гэтая замена. Хтосьці хацеў лепш, а стала горш.

**Валянціна Грынявіцкая**

## РУЧАЁК

У прыгранічным гарадку Крынкі ў многіх месцах ёсць вулічныя краны водаправода, з якіх вада цячэ ручайком у большы ручай. Гэта добра, што вада ёсць, бо без вады няма жыцця. Скажаце: чаго ж аб гэтым пісаць, мы і так ведаем, што вада ўсім патрэбная. Але тут справа з вадой іншага роду.

Каля рыначнай плошчы нехта пабудаваў невялікі выходак, куды людзі з рынку заходзяць. Ды ён так спрытна пабудаваў той выходак, што яго ніколі не трэба чысціць, хоць бы і сто людзей зайшло, усё вада забірае сваім ручайком, які з-пад выходка выцякае, ды цячэ ў рэчку, якая знаходзіцца з другога боку рынку. Гэта праўда, што вада ўсё змые. Але ж усё мае сваю меру. У каналізаваным горадзе вада забірае ўсе адыходы, але ручайком плысці з гэтым у рэчку не павінна.

Калі я зайшоў у той выходак, не змог нічога зрабіць, бо мяне бацькі вучылі, што вада — святая рэч, трэба яе шанаваць. Казалі: не плюй у вадзіцу, бо прыдзецца напіцца. І так, даражэнькія, я выйшаў з таго выходка і падаўся ў пустазелле, якога ў Крынках на кожным кроку хоць адбаўляй. І там я ўбачыў, што і іншыя людзі пакідаюць тут сваё „дабро“.

Вы пісалі ў „Ніве“ № 44 ад 2 лістапада 1975 г., што ў крынкаўскім плывальным басейне завяліся шчупакі, якія аж хлопца пакалечылі. Але цяпер хлопцы могуць смела купацца, бо шчупакі з бруднай вады далі дыля.

**Ніяк**

## У РУДУТАХ

Рудуты — гэта прыгожая вёска ў Арлянскай гміне. Жыхары ў вольныя ад сельскагаспадарчых работ хвіліны займаюцца вырабамі з саломы, якія прадаюць на пункце скупкі ў вёсцы. Жыццё ў вёсцы плыве як бы аднастайна. Мне здаецца, што людзі пасля цяжкай работы патрабуюць адпачынку, але дзе тут у Рудутах адпачыць? Прыдаўся б вёсцы клуб. Некалькі гадоў таму назад быў клуб у мясцовай святліцы. Яшчэ дагэтуль стаіць сцяна, якая перагараджала месца продажу ад месца, дзе можна было пасядзець і пагаварыць. Ды пару гадоў назад клубовая выйшла замуж у іншую вёску. І клуб перастаў існаваць.

А ён патрэбны быў і ёсць. І не толькі старэйшым, але і моладзі. Рудутаўская моладзь, праўда, вучыцца ў гарадах, але ў суботу з'язджаецца ў родную вёску і дзе тады сустракацца, дзе пагаварыць, падзяліцца навінамі? Асабліва дрэнна без клуба ў час летніх канікул. Рудутаўская моладзь здольная, спяваць умее, іграць на розных інструментах, дасканала дэкламуе вершы, у такіх абставінах яна лёгка магла б стварыць калектыў, які б у суботні вечарок выступіў бы на сцэнцы. Прыйшлі б жыхары вёскі, з прыемнасцю паслухалі б, паглядзелі, палюбаваліся. А які ж вывад? Прапануем і вёсцы Рудуты, і Арлянскай гміне задумацца над гэтым. Супольна напэўна прыдумаем рэч добрую.

**Заметка**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ПАРК НЯДБАЙНАСЦІ“ № 44 (1183) ад 29 кастрычніка 1978.**

**Адказвае: СПУЛДЗЕЛЬНЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ГУРТКОЎ У КЛЯШЧЭЛЯХ.**

Nieprawdą jest, że kopaczki w PUM Dubicze Cerkiewne źle pracowały w roku 1978, a nawet, w/g autora notatki, **w ogóle nie** pracowały. W/w punkt Usług Mechanicznych posiadał 12 kopaczek, które przepracowały łącznie 989 godzin, co daje 82,5 godziny średnio na 1 kopaczkę, przy normie CZKR 80 godzin na sezon. Aby ułatwić przebieg wykopków i nie hamować innych prac polowych naszymi ciągnikami, SKR wypożyczał kopaczki dla rolników, posiadających własne ciągniki, aby wykopali ziemniaki sobie i sąsiadom. Ponadto stał do dyspozycji rolników kombajn ziemniaczany, z którego nikt nie korzystał. Świadczy to, że nie było problemu z wykopkami ziemniaków. Zgodnie z oceną KG PZPR i Naczelnika Gminy Dubicze Cerkiewne w roku 1978 nastąpiła znaczna poprawa w usługach dla ludności w najważniejszych kampaniach tj. w żniwach, zbiorach zielonek i wykopkach ziemniaków, mimo, że br. w pracach polowych był bardzo trudny. To, że część rolników zebrało ręcznie owies lub końmi orali, nie świadczy o złej pracy PUM, ponieważ powszechnie wiadomo, że uspołeczniony sprzęt traktorowo-maszynowy może wykonać tylko część prac polowych, a konie są też od tego, aby rolnicy nimi pracowali w polu, a nie tylko jeździli na targi czy wesela.

Do pozostałej części notatki nie będę ustosunkowywał się, ponieważ jest ona wybitnie złośliwa. Możliwe, że coś tam jest z prawdy, że któryś z traktorzystów wypił kieliszek wódki, czego nie można pochwalić ani tolerować, ale nie można też z tego powodu oczerniać wszystkich, jak to zostało zrobione w w/w notatce. Napewno w pracy PUM Dubicze występują jeszcze braki i niedociągnięcia, ale bezkrytyczne zamieszczanie takich notatek nie może pomagać zakładowi i poszczególnym ludziom tam pracującym.

**mgr P. Saniukowicz**
**Dyrektor SKR**

Як бачым, найлягчэй было дырэктару сказаць: не буду даходзіць праўды, не буду даследаваць закіды газеты, бо, пamойму, усё было і ёсць так, як павінна быць. У такім тоне напісаны вышэй прыведзены адказ дырэктара СКР у Кляшчэлях. Тым часам мы раім чытачу яшчэ раз прачытаць гэты адказ і ён сам убачыць, што ў ПУМ-Дубічы Царкоўныя не беспадстаўна скрытыкаваў карэспандэнт розныя з'явы нядбайнасці і беспарадку. Раздумваючы далей над такім адказам на крытыку, хочам сказаць адно: той, хто не шукае, нічога не знойдзе.

**Да публікацыі: „КАЖУЦЬ, ШТО...“ „Ніва“ № 45 (1184) ад 5 лістапада 1978 г.**

**Адказвае: ГС КРЫНКІ.**

...w sprawie braku w sprzedaży drobnego pieczywa w sklepach spożywczych, Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska” w Krynkach uprzejmie wyjaśnia co następuje: w okresie wiosenno-letnim br. produkcja pieczywa pszennego drobnego była ograniczona ze względu na absencję chorobową dwóch piekarzy i duży popyt na pieczywo podstawowe. Celem częściowego zmniejszenia występujących braków pieczywa drobnego, sklep we wsi Wierzchlesie został przekazany do GS-ni w Sokółce na stałą dostawę w wyroby piekarnicze.

Wiceprezes d/s Handlu, Produkcji,
Gastronomii i Usług
**Stanisław Bach**

